ISBN 985-6418-96-8

Чарговая кніжка вершаў Георгія Ліхтаровіча пераканаўча даказвае, што сапраўдная паэзія можа быць не толькі дасканалай па форме, глыбокай па думцы, афарыстычнай. Гэты зборнік прасякнуты тонкім пачуццём гумару, самаіроніяй.

***Круці на вус***

*Час шыбіны вачэй пазапыліў,*
*А цёзка скрозьпраніклівы Скарынаў*
*Рашуча асьцярогі ўсё адрынуў –*
*“Ліхтарыкі” ў цямрэчы запаліў.*

*Мы самі й нашы сані, й нашы дні*
*Нарэшце без ідэйных акуляраў*
*Ружовых не ад мараў –*
*Ад кашмараў*
*У шэраіснасці на далані.*
*……………………*
*Ня стане лёгкім зайцам*
*Тлусты трус –*
*Яму трусятнік даражэй за волю.*
*Пан беларус!*
*Сваю не зблытай долю*
*З навязанай.*
*Чытай!*
*Круці на вус!*

***Народны паэт Беларусі***
***Рыгор Барадулін***

* * *

Пра ўсё пісалі да мяне.
Нашто крамзолю я паперу?
Ды проста ў святасць слова веру:
А раптам некага кране?

*Заместа аўтарскай прадмовы*

* * *

Можна са сваёй радзімы кпіць,
Пішучы ў Ерусаліме “гарыкі”,
Ну а я спрабую запаліць
У тутэйшай цемрадзі “ліхтарыкі”.

* * *

Смяяўся крытык апантана:
Далёка Вам да Губермана!..
–У кожнага свая прапіска,
Да Мінска і яму не блізка!

* * *

Раней зайздросціў Губерману.
Паразважаў – яго бяда.
Сем раз адмерваў я старанна,
А рэзаць роднае – шкада!

* * *

Яшчэ адно скажу я вам, панове,
Напрыканцы, як кажуць, у нагрузку:
Ліхтарыкі гучаць на роднай мове!
А Гарыкі – усё-такі па-руску…

* * *

Мы вывучалі ўсе паданне тое.
Спачатку – Слова… Ведаем даўно.
Але чаму не кажуць нам, якое,
Дык, можа, нецэнзурнае яно?

* * *

Кім на гэты свет запёрты?
Варыянтаў тут да чорта!
А вароты не запёрты
Ні да Бога, ні да чорта…

* * *

Хоць як свет аксіёма старая,
Што і Слова для Мовы стварае
І самога Паэта – народ,
Свет быў створаны наадварот.

* * *

Віруе небасхіл зімой і ўлетку.
У кругазор'я варыянтаў цьма.
Як сцяміў, што ідзе гульня ў рулетку –
Адразу чуеш: ставак больш няма!

* * *

І хто даўмеўся, ягамосці,
Што мы на гэтым свеце госці?
Не разумею, хоць памры,
А хто ж тады гаспадары?

* * *

У верах – выбару прастор…
А як галоўнае праверыць:
Ці Бог у чалавека верыць,
Ці ён даўно забыў свой твор?

* * *

У завірухах падзей
Дзіўныя рэчы здараюцца:
Не аб'яднаеш людзей,
Злыдні – імгненна яднаюцца!

* * *

Сябрам не трэбы шукаць прычыны.
Заходзь на чарку – налью гасцінна.
І мне ўсё роўна, што скажуць людзі,
З краямі поўна налью, як будзе…

* * *

Куды знікае наша маладосць?
Ці трэба поспех, слава і багацце?
Нашто на гэты свет прыходзім, браце?
Няма адказаў… А пытанні ёсць!

* * *

Ён малады цішэй вады
Сяды-тады, гады ў рады,
Шукаў, куды вядуць брады…
І ні туды, і ні сюды!

* * *

Прыглядзіся і паслухай –
Не спяшай да гаманы.
Ёсць два вокі і два вухі,
Вусны – нездарма адны!

* * *

Кіславата, ды паціху думка спее,
Як дзядуля мой казаў яшчэ тады:
Аніхто на два абеды не паспее,
Каб наесціся, нібыта на Дзяды.

* * *

Лёс абраць асэнсавана –
Вось галоўная турбота:
Донжуанам быць складана,
Донкіхотам – неахвота!

* * *

Не ўспрымаецца на слых:
Шэсць мільярдаў на планеце!..
Толькі мёртвых душ на свеце
Значна болей, чым жывых.

* * *

Ён значна горшы, чым свіння,
І не ўсхвалюе нават сконам.
Іх параўнаць не ў стане я:
Свіння ўпрыгожыць стол беконам.

* * *

Скуль гэты гонар? – Не ўяўляю!
Напэўна, трошкі сцішыць трэба?
Людзей хаваем у зямлю,
А кажам: “Адышлі на неба…”

* * *

Няўжо заўважыць здольны мы,
Што ў нас над галавой сінеча,
Што ўранку жаўранак шчабеча –
Адно за кратамі турмы?

* * *

Жыццё – тэатр, а кожны з нас – акцёр
З уласным грузам штампаў і амбіцый.
Як верыць нам павінен Рэжысёр,
Каб ролі раздаваць без рэпетыцый!

* * *

Агітпроп святароў, абяцанкі-гаворкі
Пра выгоды нябёсаў не надта люблю.
Ці не з грэшнага неба зрываюцца зоркі,
Каб патрапіць да нас – на святую зямлю!?

* * *

На абразах старых без выкрутас
Наўкол анёлаў ззянне залатое.
Цікава, як анёлы бачаць нас,
Але ў каго спытацца мне пра тое?

* * *

Куміра сам сабе не сатвары,
Каб не стварыць агідную пачвару.
Бязгрэшны, кажаш, Божухна ўгары?
А хто ж у пекле назапасіў вару?

* * *

Што для Творцы мае тары-бары,
Ды няўмела, цішком, пакрысе
Я прашу, каб здзяйсняліся мары,
Але толькі. крый Божа, не ўсе.

* * *

Пакіньце вашу паству страшыць пеклам,
Паверце ўрэшце Богу, святары.
Напэўна, нездарма ён сатварыў
Адама не анёлам – Чалавекам!

* * *

Калі паленца дагарае ў печы,
Ці помніць, як бярэзінай расло?
Дарэчы, гэткі лёс і чалавечы –
Паспець аддаць уласнае цяпло.

* * *

Даруйце думкі мне свавольныя,
Ды надта хочацца спытаць:
Няўжо адно на што мы здольныя –
Жыццё самім сабе псаваць?!

* * *

Духоўны прагрэс прыпыніўся, дальбог,
І ёсць заняпаду прыкметы.
Магчыма, спыніў свае доследы Бог
Над малпамі з трэцяй планеты.

* * *

Ці ад дурноты, ці ад халадоў
Не бачна ўсходаў нашых жалудоў.
Навошта дуб, калі ён не пакіне
Асілкаў-парасткаў сваёй краіне?

* * *

Калі разгледзелі з-пад палкі
Аднойчы ў люстры свой партрэт,
Мы шкло разбілі на кавалкі.
Ды ў кожным з іх той самы свет!

* * *

У схільнасці да гвалту і разбою
З драпежнікамі маем парытэт.
Адзіны ёсць у нас прыярытэт –
Магчымасць пасмяяцца над сабою!

* * *

Рагочуць, верагодна, аж да смерці
Ад гэтага пачыну ў пекле чэрці:
Нам чынавенства месцы для спачыну
Дае ці па знаёмству, ці па чыну.

* * *

Я ў боскім плане бачыў недахоп:
Лёс Свету Ён аддаў на водкуп Ною...
А сёння ўцяміў, што стварыў патоп
Грунтоўныя для нас запасы гною.

* * *

І каму нам за гэта падзякаваць,
Што хлусня сёння песні пяе,
Калі праўдзе самой абыякава –
Ці паверыў хоць хтосьці ў яе?!

* * *

Свет бязгрэшнымі Бог насяляе.
Мы ў маленстве – анёлы заўжды!
Але хто ж нас амаль пазбаўляе
Успамінаў пра тыя гады?

* * *

На надта набожных я часам злуюся –
Дурную манеру яны завялі:
Пагардліва кажуць – зямныя спакусы!..
Нібыта яны не жывуць на зямлі.

* * *

Калі ў вірні будзённай мітусні
Раптоўна ўспомніш тое, што забыта,
І зразумееш, што яно – забіта,
Забойцу ў вочы ў люстра зазірні!

* * *

Нямоглым, Божа, спачувай.
Няўцямным – даравацъ не трэба.
Таго, хто бэсціць родны край,
Тут пакарай. Не пэцкай неба!

* * *

Божа, якія прыгожыя твары дзяцей –
Колькі гарэзных забаў, летуценняў узнёслых,
Мрояў бясконцых! Ды я запытаю прасцей:
Як з іх ствараюцца сумныя твары дарослых?

* * *

Знаёмы мой вучоны муж,
Калі ў гасцях к дэсерту збочвалі,
Не каштаваў ніколі груш –
Ён ведаў, чым іх акалочвалі!

* * *

Не схіляўся ён да перамен
І сваё трымаў заўсёды слова –
На сваім настойваў прынцыпова:
Для настойкі браў выключна кмен!

* * *

Дамовіўся са сваякамі:
Па-свойму кожны можа жыць...
З маёй душы зваліўся камень,
А ў іх – запазухай ляжыць.

* * *

Калі казалі “пі здароў!” –
Я чуў заўсёды “пі з дароў”
І я пытаўся: “Спадары,
Дзе абяцаныя дары?”

* * *

Гаворка йшла пра выбар шчанюка:
“Хачу, каб з радаслоўнай быў, і годзе!” –
Вішчэла бацьку любая дачка...
Ці выбіраюць сябра па пародзе?

* * *

Саноўны дуб пражыў як бервяно.
Даў дуба... Не ратуе чын ад смерці.
Казалі: “Перастала біцца сэрца”...
А ці калісьці білася яно?

* * *

Мужык у вёсцы руйнаваў буслянку:
“Засралі ўсё, а мне парадак трэба!..”
А я з надзеяй пазіраў на неба,
Ды Бог ізноў пашкадаваў маланку!

* * *

Пяюць заранкі, ценькаюць сініцы,
Але душа не чуе ні шыша.
Заместа завушніцаў у дурніцы –
Навушнікі ад плэера ў вушах.

* * *

П'янюга з догам пасярод двара...
Не трэба аніякія тут вагі:
Сабака разумней гаспадара,
Але хвастом віляе ў знак павагі.

* * *

На могілках трымаў дарослы слова:
“Пайшоў заўчасна чалавек з жыцця”...
Ды раптам запыталася дзіця:
–А што? Бывае, каб своечасова?

* * *

Для дзеда ў “Запарожцы”, быццам фэст,
На браме шыльда пра бясплатны ўезд.
Не ведае нябога, што завые,
Бо грошы тут здзіраюцца за выезд.

* * *

Памёр сябрук... Не ў гэтым сутнасць.
Да сёння цяжка выйсці з трансу,
Бо жонка толькі ў дзень авансу
Заўважыла яго адсутнасць.

* * *

Папу ў нас Вера піць забараняе.
Калі на чарку вернікі завуць –
Адвернецца, бо сілу Веры знае!..
Дарэчы, Верай пападдзю завуць.

* * *

У вёсцы з дзіўнай назвай Жмінды
Бабыль-байбак на свеце жыў.
Не ведаў, што такое лынды,
Бо ўсё жыццё ён байды біў.

* * *

Аж да азоў яго жыцця
Перагартаў фотаальбом:
Якое мілае дзіця,
А вырасла такім жлабом!

* * *

Зубра цягнула племя з лесу.
Падколваў іх гультай вясёлы:
Лянота – рухавік прагрэсу!..
Бо ён ужо прыдумаў ...колы.

* * *

Не каштаваў яшчэ ў жыцці як след
Усіх прысмакаў, што прапанавалі.
А час ляціць, канчаецца абед,
І стравы са стала амаль прыбралі...

* * *

Цікавы ў рэчаіснасці статут:
Ад нараджэння ўсё жыццё – чаканне,
Калі смяротны здзейсніцца прысуд,
Бо ён з адкрытай датай выканання.

* * *

Паэт – апошняя з надзей,
Хоць блытаецца пад нагамі,
Ды ўсё-ткі любіць ён людзей,
Таму спрачаецца з багамі!

* * *

Сем – адмерай, адзін раз адрэж…
Нешта ў думках мяцеж уздымаецца:
Ёсць рубеж і куды тут папрэш –
Ці разрэзаць кулеш атрымаецца?

* * *

Ціха ныючы пра болькі,
Пазіраем мы на неба.
Мо здаецца Творцу толькі,
Што на свеце ўсё як трэба?

* * *

Што шалі лёсу хваляваць
Шаленствам юбілейнай хвалі,
Калі яшчэ не пахавалі,
А пачынаюць памінаць?!

* * *

Абраў я не шыпоўкі, а красоўкі,
Бо думаў, што жыццё як марафон.
Ды ў боскага судзейства свой закон…
Як блізка фініш гэтай стометроўкі!

* * *

Паволі кожная персона
Ідзе да марша Мендэльсона,
А потым час ляціць імгненна,
І ўжо нясуць пад марш Шапэна…

* * *

Жыццёвы ўзровень павышаецца, –
Улада сведчыць нам… Хаця…
Чаму ж няўхільна скарачаецца
Працягласць лепшага жыцця?

* * *

Енчыць старасць нам здаўна:
Добра там, дзе нас няма!..
Спеліць думку маладосць:
Значыць, дрэнна там, дзе ёсць?!

* * *

Узрост збірае безліч скарбаў,
Ды, што вы мне ні гаварыце,
Амаль няма ружовых фарбаў
У антыкварным каларыце…

* * *

Паміж калыскай і труной – пункцір:
Кватэры, мэбля і аўтамабілі,
Ды праца, выбачайце, на сарцір…
Нічога для душы – усё для цвілі.

* * *

Заўсёды першым зло да нас чапляецца,
Гне да зямлі жыццёвымі віхурамі.
Чаму дабро адно абараняецца,
Гуляе толькі чорнымі фігурамі?

* * *

Магчыма, Бога і разгневаю,
Ды выкажу сваю нязгоду я:
Стварыў ён Свет адною леваю,
А я ж і праваю валодаю!

* * *

Хоць ведаю малітвы – не малюся.
Уласны шлях агорваю гарбом.
“Раб божы” – я ад гэтых слоў у скрусе,
Бо не хачу і ў Бога быць рабом!

* * *

Сябра з месяц у вёсцы прабыў,
Зараз – мучыцца як недарэка:
Ці патрэбны правы чалавека
Тым, хто твар чалавечы згубіў?

* * *

Ці будзе лад у нашай гаспадарцы?
Мы лёкаі на ўласнае зямлі.
А паглядзіце, як жывуць швейцарцы!
Раней адно швейцарамі былі.

* * *

Калі мастак, вучоны і паэт
Спрачаюцца за лычкі на мундзіры,
Які тут, браце, суверэнітэт?
Сурвэтка ды ручнік на сувеніры.

* * *

Я пытаюся ўпарта, як тая каза:
А ці ёсць Таварыства ангельскае мовы –
І не ў сэнсе навукі, а ў ролі аховы –
У Вялікай Брытаніі?.. Хто б адказаў?

* * *

Усё ж няроўна дзеліць Бог –
Ён нам да сёння нешта вінны,
Бо зладзіў беларусаў з гліны;
Граніт – для горцаў прыбярог.

* * *

Бывае – веліч цемечка дзяўбе,
Але ў начальства ёсць рэцэпт банальны:
Прыдуркаў назбірай вакол сябе,
І ты ўжо параўнальна геніяльны.

* * *

Навыдумлялі людзі ўзнагарод
І цешацца бляшанкамі, як дзеці.
Нам, дзякуй Богу, гэткі лёс не свеціць –
Не заглядалі мы начальству ў рот!

* * *

Не перагалёкаць абібокаў,
І таму, як насланнё, як пошасць,
Давіць і паэтаў, і прарокаў
Гэта падаўляючая большасць.

* * *

Гляджу я на апошнія падзеі
І не магу ад роспачы стрымацца:
Ці не занадта смелыя надзеі,
Што мы людзьмі калісьці будзем звацца?

* * *

Буду жыць як набяжыць –
Хай сама кладзецца цэгла!
Ды нягегла ўсё набегла –
Кладка крывенька ляжыць…

* * *

Калі ў паняверцы блудзім –
Геній упарта гне:
“Мяне пахаваюць людзі,
Лепшыя за мяне!..”

* * *

Не парушай і не грашы,
Каб захаваць жыццё душы!..
А мо на тое і душа,
Каб забароны парушаць?

* * *

Быў малады і назаўжды
Дакладна зведаў, дзякуй школе:
Адклад не йдзе на лад ніколі!..
А як з дарогай на клады?

* * *

Апошні шлях ніхто не абміне. –
Што кветкі на клады прыносіць потым,
Што швэндацца, не ведаючы, што там?
Прыходзьце сёння ў госці да мяне!

* * *

Калі ёсць выбар – рай ці пекла,
Пайду туды, дзе больш сяброў,
Дзе грэшнай чаркай – Будзь здароў! –
Прывецяць горача і ветла.

* * *

Вось кажуць: “Незямная прыгажосць!”
Гаворка, пэўна, йдзе пра Царства Божае.
Яно, магчыма, сапраўды прыгожае.
На жаль, ніхто не скажа, што там ёсць.

* * *

Чакаем ласкі боскай далані,
Бо самі працаваць ужо адвыклі,
Але і небу, пэўна, мы апрыклі,
Калі крычалі – там няма ані!..

* * *

Мяркую, што ўгняўлю не надта Бога,
Хоць, можа, тая думка навырост:
Здаецца мне, што самы лепшы пост –
Не есці нам зусім ...адзін другога!

* * *

Збярэцца на душы грахоў замнога,
І чалавек звяртаецца да Бога:
Мой Божа, – ціха шэпча... Чалавеча,
Заўваж: ты нават Бога прысабечыў!

* * *

Не горш чым тыя рымляне і грэкі,
Багоў паганскіх мелі пантэон.
Ці самі іх забылі, недарэкі?
Ці ўсіх паразганяў царкоўны звон?

* * *

Не спрачайцеся, хлопцы, са мной –
У паганстве мы рацыю мелі:
Новы год святкавалі вясной,
Калі птушкі дадому ляцелі!

* * *

Да эры правільнага Бога
Было няправільных – ого!
Звалілі ўсё на аднаго
І што? Палепшала дарога?

* * *

Як недарэчна ў хоры праваслаўным
Гучыць паэта знанага дыскант,
Бо я мяркую, што паэт сапраўдны –
Саліст і па прызванню пратэстант!

* * *

Куды ні кінь – усюды клін,
Куды ні глянь – наўкол халтура...
І Бог не справіўся адзін.
Монатэізм – што дыктатура!

* * *

На гэтым свеце вер неўправарот.
А можа, і не трэба тут парадку?
Курбан-байрам з мацой святкуй, народ.
Алах акбар ваісціну і ўсмятку!

* * *

У будучыню ладзілася гаць,
Ды неяк дзіўна клалася дарога:
Да раю шлях хацелі будаваць,
А перш за ўсё знялі прараба – Бога!

* * *

Напэўна, мы чародныя істоты,
Таму і адамашніў нас рэжым.
Выходзім мы з агульнае дрымоты,
Калі сыходзім, – праўда, па адным.

* * *

Я чую голас продкаў з небыцця:
Нашчадкі, у бязглуздзіцу не верце!
І мы чакалі лепшага жыцця,
Не атрымалі нават годнай ...смерці.

* * *

“Далоў!” – Гучала, быццам дзеяслоў,
Для гультаёў, няўцямных у галечы,
І здуру наламалі столькі дроў,
Што і дасюль паўсюдна топяць печы!

* * *

Ён нават барадзёнку пагаліў
І піў, што архіважна, у Разліў…
Загадка бальшавіцкае душы:
З Зіноўевым адны – у шалашы…

* * *

Забілі ў галаву цвікамі:
“Дабро ў нас быцьме з кулакамі!”
А кулака з яго двара
Ў Сібір пагналі ...без дабра!

* * *

Падасца некаму як звіх,
Ды, сапраўды, прыемна мне:
Я ўвачавідкі бачыў тых,
Хто бачыў Леніна ў труне!

* * *

Наш плён ад добрых намалотаў
Вякі малолі ветракі,
Ды хворымі на донкіхотаў
Былі-такі бальшавікі!

* * *

Калі гляджу на каласкі,
Пакінутыя ў жытнім полі,
Заўжды ўяўляю… Салаўкі,
А хлеба ўволю – аніколі!

* * *

Страцілі свае манаткі
І батрачкі, і магнаткі.
Рабавалі ўсё да ніткі
На фундацыю Магніткі.

* * *

Ці мелі нешта мы ўзамен
Рэпрэсій, ганьбы, здзекаў?
На чай і крупы зніжку цэн
За кошт памерлых зэкаў.

* * *

Харчовую праграму вырашаць
Імкнуліся і ўчора мы, і потым,
Але дасюль стаім з адкрытым ротам, –
Мо нехта ўкіне нешта пажаваць?!

* * *

Да чэргаў мы прывычныя. Чакаць
Нас прызвычаілі ад часу “чрезвычайки”,
Што нехта з “Чайкі” будзе прызначаць
Адным – пайкі, другім, прабачце, пайкі.

* * *

“Хто быў нікім, той стане ўсім!..”
І сапраўды, нам не зманілі:
Альбо забілі і забылі,
Альбо ператварылі ў дым...

* * *

Асоба – розум паважае,
Але не згодны з гэтым тлум.
І аднадумцаў памнажае,
Лягчэй за ўсё – адсутнасць дум!

* * *

Пра лёс вучоных я забыць не ў сіле:
Цяжэйшае для іх выпрабаванне –
Не плаха, не касцёр і не выгнанне –
Ва ўсе вякі іх невукі судзілі!

* * *

Улада – вось галоўны верад,
Бо як бы ні змяняўся лад,
Заўсёды кліча нас уперад,
Але прыводзіць толькі ўзад!

* * *

Пасеяць трэба, каб хоць нешта зжаць,
Ды іншыя ў нас выдумалі сродкі:
Сялян з пачатку першай пяцігодкі
Мы пачалі рассейваць і саджаць!

* * *

Нам абяцалі шчасце потым.
Вось ураджай ад тых падзей:
На дзялках за калючым дротам –
Крыжы няздзейсненых надзей.

* * *

Аддаў Пілат ганебны свой загад
І вымыў рукі, каб застацца чыстым...
Прыёмчык гэты, б´юся аб заклад,
Адтуль і трапіў у дэвіз чэкістам.

* * *

Калі траплялі ў лагерны катух,
Мяшалася ў галовах з бобам груца:
“Памылка! Выпусцяць, як разбяруцца!”
І разбіраліся, і выпускалі ...дух.

* * *

Губілі нас мільёнамі ў тайзе,
Ды не пужаў той жах амаль нікога.
Наогул балазе хоць у чарзе
Баяліся згубіць адзін другога.

* * *

Паспрачаліся з Богам, з анёламі
І ступілі на сцежку вайны.
“Разумею” пра цэрквы з касцёламі,
А навошта бурылі млыны?!

* * *

Давай закурым “Беламор”, –
Гучыць прывычна з даўніх пор,
А выглядае гэта як...
“Асвенцім” бы курыў паляк!

* * *

Дэталі мы чамусьці не ўспрымалі –
Калымскі будавалі ідэал.
Хаця павальна лёсы там каналі,
Назвалі гэта ўсё – лесапавал.

* * *

Хоць камуністаў жаба душыць,
Але пытанне рубам стала:
Чаму на шостай частцы сушы
Зямлі ніколі не хапала?

* * *

Бадай што пазводзілі коней –
Сялянскага ладу аснову.
А сёння блукаем сутоннем…
Ці знойдзем на шчасце падкову?

* * *

Тут зэкі працавалі аж да згубы,
Намылі процьму золата для нас!..
Мы ацалеўшым паўстаўлялі зубы,
І ціха ляснуў залаты запас!

* * *

І склад лагодзілі, і лад –
Адна няладная дакука:
Да свят і дат наладзь даклад…
Марксізм – дакладная навука!

* * *

Не сушыце мазгі нашы ўбогія –
Што прыросту чакаць з карча!
Ваша ўладная ідэалогія
Ўсім да лямпачкі Ільіча.

* * *

Хай вечная мінуўшчына
І стукаецца ў скроні,
Ды вочы не заплюшчы на
Знявечанае сёння.

* * *

Сляпы і той сказаў: “Пабачым!..”
Глухі дадаў яму: “Пачуем!..”
Ці чуць і бачыць нам няма чым,
Што нема міма мы шыбуем?

* * *

Не палітык, а проста дзіця!
Бо радзіму ён бачыць у марах,
Дзе паказчык узроўню жыцця –
Гэта шчырасць усмешак на тварах.

* * *

Напэўна, каб дурніца Клара скрала
Ў разявы Карла не стары кларнет,
А чарнавы асобнік “Капітала” –
Інакш бы выглядаў сучасны свет.

* * *

Магчыма, што была бутэлька з джынам
Прычынаю фантазіі уначы:
Антонаўцы, махноўцы, басмачы –
З’ядналіся са Слуцкім збройным чынам.

* * *

Па густу – бо такая ўжо парода –
Трымаць прамовы і прымаць парад.
У людзі выйшаў з простага народа,
Таму, хоць рэж, не вернецца назад.

* * *

Ён зведаў “братэрства” паўночнага жах,
Баланды насёрбаўся так , бедалага,
Што нават звычайны дурацкі “Аншлаг”
Прымае за водгук былога ГУЛАГа.

* * *

Народ наш ласы на каўбасы,
Не дурань – чарачку кульнуць,
Ды надта любіць і калгасы –
Заўсёды можна сачкануць.

* * *

Уладзе дастаўся народ залаты:
Працуе, як трактар, ні шкне з пад пяты
І лямку ён цягне, нібыта бурлак...
Чаму ж прадаецца за медны пятак?

* * *

Не будзе ладу ў нас, пакуль
Халява люду даспадобы,
Бо лайдакі вітаюць культ,
Калі ён нават без асобы!

* * *

У краіне сляпых аднавокі – кароль.
Немажліва, што ўсе невідушчыя?
Тут галоўная справа – наладзіць кантроль,
Каб відушчыя вочы заплюшчылі!

* * *

Калі пагроза паўстае –
Ахвярна, мужна і без страху
Гатовы класці мы на плаху
Галовы!.. Толькі не свае.

* * *

Ва ўрадзе – спрэчкі, а народ
Капае ўпарта свой гарод,
Таму павернуты да ўлады
Спакон вякоў выключна задам!

* * *

Свабода?.. Ах, Эжэн Дэлакруа,
І грудзі ў нашай лепшыя, і плечы,
Ды ў нас, калі галодная дзятва,
Красуня завіхаецца ля печы!

* * *

Ад бульбы ўвосень ломяцца кашы,
І шыя ў вёскі пад мяхамі гнецца.
Але хамут, хоць золатам абшый,
Ён хамутом давеку застанецца.

* * *

Мы згубілі гасцінец да волі
Ў тупіках нашых дзялак і дач.
Бальшыні – шасці сотак даволі
Для рашэння надзённых задач.

* * *

Руплівы, працавіты наш народ –
Такіх людзей не знойдзеш больш на свеце:
Усё жыццё араць чужы гарод
Гатовы за цукерку, быццам дзеці.

* * *

Гляджу на чынавенства зграю,
На казнакрадаў ды хапуг,
І наша панства не ўспрымаю –
Нашто народу столькі слуг?

* * *

З веку ў век, калі дурні-аматары
На свой розум кіруюць законамі,
І пажарнікі, і рэстаўратары –
Як закон – герастраты з неронамі.

* * *

Калі да шчасця клічуць нас назад –
Палітбюро ўстае перад вачыма,
Як доказ – безумоўна немагчыма
Мець з чалавечым тварам гэты лад!

* * *

Сасіскі ўжывае стратэг ці спагеці,
Ці скварку і чарку сваіх землякоў –
Плаціць будуць зноўку жанчыны і дзеці
За гульні ў вайнушку дарослых дзядзькоў.

* * *

Вайна – вычварная пачвара:
Тут нават перамога – страта,
Бо не сагрэцца ад пажару,
Калі гарыць суседа хата.

* * *

Уласнай цемры сутнасць
Улада давяла:
У цемрашальства хуткасць
Больш хуткасці святла!

* * *

Трэба ведаць пра кропкі адліку,
Каб Вайна не ўспрымалася ў лоб.
Без Сусветнай – ніякай Вялікай
І Айчыннай у нас не было б!

* * *

Раць наперад вядуць камандзіры:
На фуражках кукарды гараць,
Як вясёлкі ярчэюць мундзіры…
Пэўна, так весялей паміраць?

* * *

Плён ад вайны ва ўсе часы адзіны:
Зноў лепшыя не вернуцца дамоў.
Жахлівы лёс пакутніцы-радзімы –
Усё жыццё хаваць сваіх сыноў!

* * *

Зноў ветэранскія ўспаміны.
І смех, і грэх!.. Якая злосць?!
Мы спачуваць яму павінны:
Ён зблытаў лад і маладосць!

* * *

У кожнага вайна заўжды свая
І не для ўсіх яна як “Пекла” Дантэ.
Што – смерць для шарагоўца – удвая
Спажыўна для прахвоста-інтэнданта.

* * *

Хоць не гнуцца фрэнчы ад рэгалій –
Прытрымалі праўду генералы.
І, на жаль, прайшлі міма рэалій
Мемуары ды мемарыялы.

* * *

Ільгота ўдзельнікам вайны…
Як здзек гучыць радок дэкрэта!
Няўжо змагаліся яны
За права ездзіць без білета?

* * *

Пасля апошніх радыёнавін
Дзядок з палёгкай прычыняе сенцы:
– Ну, дзякуй Богу, сцішыліся немцы,
Бо, далібог, абрыдла браць Берлін.

* * *

У нашай памяці адны
Ўспаміны генералітэту…
А хто насёрбаўся вайны –
Часцей за ўсё маўчаў пра гэта.

* * *

У маленстве мы пыталіся:
“Можна кніжку пра вайну?..”
І дасюль не дачакаліся –
Выдаюць адну ману!

* * *

Ваяваць прызначана салдату.
Ад імя дзяцей прашу людзей:
– Забярыце ў хлопчыка гранату,
Хай далей жыве Марат Казей!

* * *

Збег звычак аж занадта падазроны:
Як толькі ёсць магчымасць выбіраць,
Забойцам даспадобы сцяг чырвоны...
Каб непрыкметна рукі выціраць?

* * *

Ветэранаў не віню,
Бо наўрад ці разумелі,
Колькі злыдняў рукі грэлі
Каля Вечнага агню!

* * *

Жахлівае сугучча чорных вех:
Катынь, дзе каталі годнасць каты...
Хатынь, дзе халуі палілі хаты...
Ці выпадковы страшных рыфмаў збег?

* * *

Стратэгі носяць на парад
Узнагароды, быццам бомы,
А імі кінуты салдат,
На жаль, да сёння – Невядомы!

* * *

Яе туга не беспрычынная –
Не бачыць розніцы яна:
Ці сына забярэ айчынная,
Ці – грамадзянская вайна!..

* * *

Магілка ў полі... Вожык пожні...
У міра ёсць свая цана.
Ах, каб для ўсіх была апошняй
Яго апошняя вайна.

* * *

Ушчучыў шчупака Ямеля,
І гультая святкуе злыдзень,
Бо тыдзень у яго – “неделя”,
А ў нас нядзеля – раз на тыдзень!

* * *

Свет наогул створаны прыстойна,
Ды знікае прыгажосць у брудзе.
Хараство не гіне самастойна
Бог – будуе, разбураюць – людзі!

* * *

Кіну, напэўна, я памяркоўнасць.
Локшыну хопіць вешаць на вушы:
Не ўспамінайце мне пра духоўнасць –
Лепш пачытайце “Мёртвыя душы”!

* * *

Якім яе аршынам мераць?
Чаму магчыма толькі верыць
І немагчыма зразумець?
А можа, трэба розум мець?

* * *

Наш каляндар чырвоны дзень пры дні.
Цячэ гарэлка, адзначаем даты...
Ад святасці пайшлі калісьці святы,
У “праздников” другія карані.

* * *

Гудзе галава ў панядзелкі,
Ды Вера не гіне нідзе:
Надзея жыве ў грамадзе –
Любоў да нядзельнай гарэлкі!

* * *

Напэўна, ісціна старая:
Лёс знойдзе хцівым укарот –
Не будзе вольным той народ,
Што іншых у ярмо збірае!

* * *

Мудрэц паведаў нам аднойчы,
Што намаганні ўсе дарма
Ўступіць у тую ж рэчку двойчы,
Ды прамаўчаў наконт ...дзярма.

* * *

Як тая Жмудзь Літвою стала?
Не разумею – хоць памры!
Ці мы падмурак п’едэстала,
Ці самастойныя муры?

* * *

Беларусы заўжды паважаюць
І культуру і годнасць шляхецкую,
Але толькі калі яны знаюць,
Што не ўласнае гэта – суседскае!

* * *

Усемагутны Божа мой ты,
Мы дар не ацанілі твой –
Усё праспалі, бо жамойты
Саманазваліся Літвой.

* * *

Мне скрушна, што і таленты, і лёсы
На крошку крышыць час, як жоран долі...
У Крошыне – хоць кола жырандолі,
Ад іншых – крошкі нам не засталося!

* * *

Гудуць наўкол чужыя святы,
Таму жывём мы небагата.
Забыліся, што нашы фэсты –
Радня іспанскае фіесты.

* * *

Адрадзіць магдэбургскае права
І пазбавіцца ўласных гарбоў
Мы гатовы? Тады пагатоў
Да спрадвечных гербоў дойдзе справа!

* * *

Мы гібеем без Касцюшкі,
Як без феі папялушкі.
Не крывавіць памяць-ворыва
І калгас імя Суворава!

* * *

Нядужыцца продкавым душам…
На крушнях, нібыта ўспаміны,
Шыпшыны – здзічэлыя ружы
Былога шляхецтва краіны…

* * *

Што зваць мінулае ў падмогу?
Пры кожным шчырым успаміне
З карціны фарба на падлогу
Злятае, быццам шалупінне…

* * *

Цягнуць нас ад уласнай зямлі,
Хто ў палякі, а хто ў маскалі.
Недарэкам адвеку здаецца,
Што ў суседа і певень нясецца.

* * *

Як нагуляе дзеўка немаўля,
Дык моліцца, каб белы быў і русы!..
Улусы так звяліся спакваля.
Мангол і даў мянушку – беларусы.

* * *

Жылі б па-людску ў Слуцку,
Па-боску – у Лагойску,
Але, на жаль, па-свінску
Камандавалі ў Мінску!

* * *

Тут, на высокім беразе ракі –
Падмуркі, як спусцелыя гняздоўі.
Даўно зляцелі ў вырай ветракі,
Ужо не дачакацца нам дамоў іх.

* * *

Жалеза Бог не даў нам у запас,
Ды ёсць з нястачы выхад паспяховы:
Патрэбна толькі пазбіраць падковы,
Тых коннікаў, што гойсалі праз нас!

* * *

Здаецца, без блакіту век жыву,
Наўкол туман, як сырадой разліты...
Напэўна, Бог захутаў галаву,
Аглухлую ад просьбаў і малітваў...

* * *

У казках жахі – гэта не бяда,
Сапраўдная жуда ў палескай былі:
У студнях продкаў – мёртвая вада,
Жывую ўласнаручна мы забілі.

* * *

Вы чулі прыказку пра тры сасны?
Над прастакамі так калісьці кпілі.
А нам і тры сасны – гушчар лясны,
Бо мы ў дзвюх мовах цалкам заблудзілі.

* * *

Туга, маркота, сум, жальба і смутак…
Адкуль набралі ў мову той журбы?
Магчыма, што таму і гнуць гарбы
Гатовы мы ў любой гадзіне сутак…

* * *

Мне дзіўна пад старымі абразамі
Ад Вільні да Разані і Тарусы,
Што і давілі нас, і абразалі,
А мы яшчэ ўсё роўна беларусы.

* * *

Што ў загоне нашы коні,
Досыць плакаць у сутонні,
Хопіць енчыць на жалейцы –
Трэба браць у рукі лейцы!

* * *

Што робіцца ў краіне?
Вячэрае будзённа
Бананам на яліне
Тутэйшая варона!

* * *

Нам Бог зямлю лагодную
Аздобіў краявідамі.
Яе мы любім, родную,
І песцім ...пестыцыдамі.

* * *

Сарвалі ў спрэчках галасы –
Пра лёс прыроды точым лясы:
Гудзе сыр-бор, а гэтым часам
Скрозь высякаюцца лясы!

* * *

Ці смáгу хутка пры вадзе адчуем,
Ці ўсё-ткі, можа, здужаем спыніцца
Раней, чым у бутэлькі расфасуем
Усе азёры, рэчкі і крыніцы?

* * *

Ці свет такі, ці люд здурэў?
Сук пад сабой пілуем самі:
Сячэм на дровы трупы дрэў,
Што ўчора зваліся лясамі.

* * *

Магчыма, мы калісьці мелі рацыю,
І нашы навукоўцы – не аслы,
Ды ці даруюць нам меліярацыю
Змарнелыя без посілку буслы?

* * *

Пачнуць пракокі ў недалёкай былі
Імпэт меліяратараў хваліць:
Пустыню на Палессі ўсё ж стварылі!
Ёсць месца – сорак год народ вадзіць.

* * *

Хацелі танны атам зацугляць,
Каб электрычна ежу гатаваць...
На дармаўшчыне "мірнай Хірасімы"
Цяпер, як на патэльні карасі мы.

* * *

Параўнанне сённяшняга дня
Падарыла мне дачушка егера,
Ушчувала ў пушчы галчаня:
"Што пішчыш, нібы лічыльнік Гейгера!"

* * *

То газ нам патрабуецца, то нафта.
Там свідравіна, там руднік, там шахта...
Зямлю раскалупалі, як краты!
Усё спрабуем з Богам быць на "ты"?

* * *

У роспачы сядзіць Магутны Божа,
Падлічвае, што ж хоча гэты край,
Збіваецца, злічыць ніяк не можа:
"Рассып, пашлі, зрабі і дай, дай, дай!.."

* * *

Ці хрысцімся, ці робім мы намаз,
Ці ідалаў жалобім – лобам долу,
Ці Бога мы ўспрымаем як назолу, –
Цікава Творцу пазіраць на нас.

* * *

Мне – да ведаў святых запаветаў:
Не забі, не ўкрадзі, не змані –
Бог аднойчы дадатак паведаў:
І Мінуўшчыны не абміні!

* * *

Халадэча... Бяда за бядою...
Ах, народзе, ушчэнт не скалей
У чарзе за святою вадою,
Што даўжэй за чаргу ў маўзалей.

* * *

Чацвер, як дзень святы, чакаем –
Мо абяцаны дождж пральецца?
Дарма... То сонейка смяецца,
То хмары ходзяць небакраем!

* * *

Зноў бэсцяць маці, і ніхто не ўстане –
Сядзяць сыны, вады набраўшы ў рот.
Амаль што рытарычнае пытанне:
Ці варты іншай долі наш народ?

* * *

Як жахліва, калі лiміта
Мае голас у справах галоўных.
Трэба прыклад? Ды нават Хрыста
Распіналі па "просьбах працоўных"!

* * *

Ад бацькоў навучаюцца дзеці.
Наш працяг – добры іхні ўспамін.
Мне ж, напэўна, нічога не свеціць:
"Здравствуй, папа!" – вітаецца сын...

* * *

Трэба, сынка, выйсці ў людзі,
Што на вёсцы працаваць!?.
Людзі, як жа сынка будзе
Хлеб бацькоўскі шанаваць?

* * *

Горка ў роце, хоць чуюцца крыкі "халва",
Сёння звычка савецкім быллём уваскрэсла:
Калі продкі казалі: "Ну ў Вас галава!..."
Зараз болей істотна, якое ў вас крэсла.

* * *

Народ і сее, і капае,
А сам сілкуецца з гарода,
Ды гэтых сіл ледзь-ледзь хапае,
Каб пракарміць тых слуг народа!

* * *

На нарадзе ён з вялікім жарам
Чынавенству ўчора даў загад:
Павярнуцца да народа тварам!..
Што ж раней мы сузіралі? Зад?

* * *

Па "зайчыках" мы справілі памінкі,
Не доўга ганарыліся "зубром",
А цалкам безумоўныя адзінкі
Умоўнымі чамусьці мы завём...

* * *

Стаіць пад шыльдаю "ДАІ"
І кажа: "Грошы не таі.
Ты бачыў знак? Таму – даю!.."
Што зробіш? Вось і я даю.

* * *

Тут кропкі на “е” неад´емныя –
Не сцерці і ўладнай рукой:
Ніколі не стане прыемным
Бальнічны прыёмны пакой!

* * *

Каб медыцыну з адукацыяй
Бясплатнымі лічылі ў нас,
Плацілі мы бясплатнай працаю
І плацім аж па гэты час!

* * *

Трапіў да бясплатных дактароў я,
Ну і як, скажыце, не здурэць?
Трэба мець жалезнае здароўе,
Каб у нашы дні яшчэ хварэць.

* * *

Кульнуць патрэбна чарку, хоць памры!
Дазвольце мне, дацэнты-асістэнты, –
За вас! Калі здаровы дактары,
Дык, можа, пажывуць і пацыенты!

* * *

Адказу на пытанне “дзе я?”
Не знойдзе лепшы дабрадзей,
Бо беларуская ідэя –
У безнадзейнасці …ідэй!

* * *

Свабод спакуслівых прынады
Мы ўсе пакаштаваць хацелі.
Адны пайшлі на барыкады,
Другія – напрасткі ў бардэлі.

* * *

Калісьці ўсю Нямігу
Мы знішчылі суздром,
А зараз маем …фігу,
Чытай – Гандлёвы дом.

* * *

Пад офісы штукуюць Верхні горад,
А я мяркую так на гэты конт:
Саюз пачварны – серп, даляр і молат.
Наладзіць бы ў мазгах еўрарамонт!

* * *

А ці патрэбна нам свабода?
І раптам думка сцебане:
Няма ніякага народа –
Усё залежыць ад мяне!

* * *

Не трэба нават ланцугі –
Традыцыя такая:
Прасуе прэса нам мазгі,
Ад звілін іх збаўляе.

* * *

Ссівела ўжо валоссе ў барадзе!
Дзе лёсавызначальныя падзеі?
–Не чуеш рыфмы?.. Дзякуй грамадзе!
І сапраўды: vox populi – vox dei.

* * *

Нас прывучылі спакваля,
Што алавянна, аж да ночы,
Глядзяць на нас з экранаў вочы,
Як гузікі ад шыняля!

* * *

Казаў Шэкспір, а ён эксперт:
“Жыццё – тэатр”... Ды чуць мне горка,
Калі галёкае галёрка,
Што села ў ложы і партэр.

* * *

Не пэцкайся ва ўладным брудзе,
Не вер кар'ерным недарэкам!..
Ён не шчаміўся выйсці ў людзі,
Таму застаўся... Чалавекам!

* * *

У кожнага народа свой характар
І ў нас у рукаве – уласны туз:
Назваць даўмеўся ўласным імем трактар
Адзіны ў свеце – братка BELARUS.

* * *

Кіраўнікі ў нас – Божа, барані!
Засвоілі адно ў савецкай школе:
Бяліць уздоўж гасцінцаў камяні
І фарбаваць траву ў зялёны колер.

* * *

Пакінуў фразу для гісторыі
Наш бюракрат пра Курапаты:
“Каштоўнасць першай катэгорыі”...
Для ўлады мы, як кураняты.

* * *

Трывае ў Курапатах драма:
Крыжы і хлопцы на марозе...
Ці дойдзе наш народ да Храма
Па гэтай кальцавой дарозе?

* * *

Ёсць да сучаснасці рэмарка:
Халяўны рай – для лайдака!
Няўжо напраўду наша марка –
Усё займець нашармака?

* * *

Святых не бачна ў храме?..
Прыемна хоць няўрокам,
Калі мы ў брудзе самі,
Запэцкаць і прарокаў!

* * *

Абралі толькі ў сельсавет,
А прайдзісвет ужо гатовы
Пляваць на свой уласны свет
Праз амбразуру рускай мовы.

* * *

І хахол, і эстонец, і лях
Да свабоды агорвалі шлях,
А тутэйшыя ў бульбачку шусь,
Там і енчаць: “Жыве Беларусь!”

* * *

Здзіўляемся, браточкі-бульбашы,
Чаму ў наш бок і Бог не косіць вокам?
Лічынку праўды кожнае душы
Аплёў даўно хлусні ліпучы кокан.

* * *

Уся бяда была ў грашовых лішках.
На радасць “рэфарматараў” галоўных
Яны згарэлі на ашчадных кніжках,
Цяпер жыццё датлее – на працоўных.

* * *

Стаміўся стаўбуном стаяць,
Таму дазвольце прапазіцыю:
Мо ў Камасутры пашукаць
Для апазіцыі пазіцыю?!

* * *

Чаму народ не здольны хваляваццa
На выбарах у восеньскую слоту?
Напэўна, дзеяслоў “балатавацца”
Аднакарэнны нашаму балоту.

* * *

Каб захаваць пасаду і аклад,
Дзве стадыі праходзяць бюракраты:
Каты[7] – вяршкі лізаць ад ласкі ўлад,
Змяніўся націск – і яны ўжо ка[7]ты!

* * *

Няўжо спачатку трэба раскулачыць,
А потым, як адвыклі ад зямлі,
Даваць на балацінах дзялкі-дачы,
Каб людзі пракарміць сябе маглі?

* * *

Са статыстаў створан статак,
Каб стабільным стаў падатак.
А статыстам і астатак
Па статыстыцы – дастатак!

* * *

Калгас марнее на вачах,
Дурнота пестуе ляноту.
Але не страшыць вёску крах,
Бо не было ніколі ўзлёту.

* * *

Вынік работы любому відзён:
Добра аформлена толькі вітрына.
Спешка ў будоўлі – адсюль штурмаўшчына.
Нават для Бога замала – шэсць дзён!

* * *

Чаму народ жыве ў нязгодзе?
Забылі мы – Бог не забудзе,
Пры ўсёй спагадзе і лагодзе,
Што ў крыж цвікі забілі людзі!

* * *

Ёсць думка, што габрэі-хлусы
Схавалі ісціну, як звыкла.
Абраны Богам – беларусы,
Каб паказаць адмоўны прыклад!

* * *

Бог Бацька сына ў свет пусціў
І даў яму месіі посах,
А грэх Марыі адпусціў
З усмешкай боскаю ...Іосіф!

* * *

Гагарын быў галоўны іудзей –
Ён першы на ўвесь свет сказаў “Паехалі!..”
Каманду чулі тысячы людзей –
Сабралі транты і ў Ізраіль з’ехалі.

* * *

Гешэфт ізраільскай зямлі
Асэнсаваць не хопіць клёку:
Месію свету прывялі,
А самі – назіраюць збоку!

* * *

Можа, хопіць надзей на халяву?
Ёсць узор, як працуюць на мэту:
Узнавілі габрэі дзяржаву
На падставе Старога завету!

* * *

Як у Вялікім княстве мы б жылі:
Заможна, можа, нават і багата,
Калі б тады паслалі ў Віскулі
З Шушкевічам ...габрэя-адваката!

* * *

За “Русь святую” зноў душа баліць –
Галоўная ідэя памірае!
Усе масоны з´ехалі ў Ізраіль.
І на каго ж цяпер віну валіць?

* * *

Мой сябра – навуковец паспяховы,
Прызнаны ў цэлым свеце паліглот –
Не знойдзе аніяк агульнай мовы
З дурным суседам, што жыве праз плот.

* * *

Каб у любой краіне жыць,
Каб быў батон ікрой намазаны,
Паэтам можаш ты не быць,
А вось габрэем – абавязаны!

* * *

Зачаста чарачка кулялася
За шчасце, што ў жыцці заўжды
Сухім выходзіў ён з вады...
З віна – ужо не атрымалася.

* * *

Кажуць да свабод не дараслі вы...
Я раскрою вам сакрэт народны:
Ужываеш – ты амаль шчаслівы,
Выпіў зранку – цэлы дзень свабодны.

* * *

Назваць “чарніла” таннага гатунак
Дадумаліся зухі... “Родны кут.”
Ці знойдзем ад прыблуд мы паратунак,
Ці праглыне ізноў рахманы люд?

* * *

Калісьці тут жылі сумленна,
А сёння – мора па калена,
Бо гонар прапілі і гены
Тутэйшыя абарыгены.

* * *

Я з анёлам-дарадцам даўно
Пагадзіўся, бо мае ён рацыю:
Цераз край – і сухое віно
Можа так падмачыць рэпутацыю!

* * *

Хоць піў ён на траіх,
Ды гэтак набіраўся,
Што на сваіх дваіх...
Сябрах дамоў вяртаўся.

* * *

Цвярозасць нам досвед нясе
Прыемна быць вольным і п'яным.
Уцямілі ўсе пакрысе:
Свабода – занадта складана.

* * *

Дурніцы плачуцца ў жылетку,
Затое кемлівыя людзі
Спачатку выберуць кабетку,
А потым плачуцца... у грудзі!

* * *

Кіруем? Ёсць для гонару прычыны?
Памылачка грунтоўная, браткі!
Выключна інтуіцыя жанчыны
Здымае з нас і маскі, і ...парткі.

* * *

Для пары донаў – цьма работы.
Пардон, нязменны нашы панны:
Ім днём патрэбны донкіхоты,
Як ноч – выключна донжуаны!

* * *

Хай маладосць не дакарае –
Мы паваЛтузімся яшчэ.
Агонь імкліва прагарае,
Ды прысак – бульбачку пячэ!

* * *

Спакус няма. Наўкол спакой...
Ды Еву Творца каралеваю
Прызначыў праваю рукой,
І вокамгненна кара – левaю!

* * *

...І Бог сказаў: "Я пакараю!
Анёлам райскі сад аддам"...
– Ну добра! Еву забіраю... –
У рыфму адказаў Адам.

* * *

Адам да сёння жыць па-райску мог,
Ды з Евай пракалоўся з першай спробы.
Не ведаю, адкуль дазнаўся Бог,
Што чалавеку яблык даспадобы?

* * *

Трактоўкі можна розныя пачуць:
Той змея вінаваціць, гэты – дрэва...
Ды мужыку вавек не праглынуць
Адамаў яблык, што сарвала Ева.

* * *

Крамольную думку выношваю век,
Што ўсё-такі Бога стварыў Чалавек!
Ды толькі заплюшчу павекі –
Пытанне: "Адкуль чалавекі?.."

* * *

Жанчыну, як ні дакарай,
А на зямлі будуе рай.
І як збудуе – перамога!
Бо крыўдзіцца дасюль на Бога.

* * *

Нешта думкі грэшныя прачнуліся,
Раздурыла ўшчэнт мяне вясна.
Дзеўкі так прыгожа распрануліся,
Ходзяць хоць бы хны, а мне – хана!

* * *

Зноў зязюлі песня-мроя
Не дае вясной заснуць...
Слухай, птушка, кінь дурное –
Людзі столькі не жывуць!

* * *

Веснавейныя вятрыскі
Ўскупідонілі багі.
Міні зноў дайшлі да рыскі,
За якую – не магі!

* * *

Хітрушча Бог пасмейваецца ў вусы.
Не, кемлівасці ў Творцы не адняць!
Каб не стварыў салодкія спакусы,
Дык што б тады ён мог забараняць?

* * *

Урэшце вырашыў пытанне,
Што на дзялянцы будаваць.
Ды зладзіў першым чынам “баню” –
І жонку ёсць куды пасláць!

* * *

Сняцца шакаладныя малодкі,
А на яве ўсё – ні ў склад, ні ў лад.
Каб усцешыць успамін салодкі,
Ён купляе горкі шакалад.

* * *

Пры ўладзе меў надзейны дах
І зарабляў не слаба.
Цяпер – застаўся на бабá$^{7}$х,
Бо пагарэў на ба$^{7}$бах!

* * *

Вясельныя прыкметы на машыне:
Як мішка – хлопчык, лялька – быць дзяўчыне,
Гумовы шарык – значна ўсё прасцей –
Не хочуць маладыя мець дзяцей!

* * *

Хоць даўно разбягаюцца вочы
Паміж ружаў, ліleяў, вяргінь...
Я паганец у сэнсе жаночым:
Не бывае замнога багінь!

* * *

Ад маладзенькіх я шалею:
Бо ўсе прыгожыя дзяўчыны
Ўжо выклікаюць не надзею,
А настальгію ды ўспаміны!..

* * *

Што з дзеўкамі не цягне на арэлі
І лысіна расце – усё няўзнак.
Апошнім часам вочы пастарэлі,
Вось гэта ўжо не выправіць ніяк.

* * *

Усё на белым свеце да пары:
Быў малады – і нá табе! – старэча.
Ды сэрца рэчаіснасці пярэчыць:
Гарыць агнём, агнём яно гары!

* * *
Пакуль паэт пяро рыхтуе –
Што час дарэмна марнаваць,
Ля печкі Муза боршч гатуе.
Хто ж лепей можа згатаваць?!

* * *
Дзівосна створан гэты Свет!
Пра творчасць я вяду гамонку:
Ці здзейсніўся б тады паэт,
Каб лёс паслаў другую жонку?

* * *
Любоўную лірыку неяк чытаў
І столькі дзівосных сустрэў неспадзевак,
Што, кажучы шчыра, я б толькі вітаў,
Каб нехта звадзіў бы паэта да дзевак!

* * *
Кожны крочыць сваёй пуцявінаю.
Я да ўласнай таксама прывык...
Сябра жонку назваў палавінаю.
Дурань!.. Як павярнуўся язык!?

* * *
Бацькі ў нас – Колас ды Купала.
Іх геній кожны адчувае!
Прырода трошачкі прыстала:
На дзецях мо адпачывае?

* * *
Як той казаў, спачатку
І сувязь не відна:
Мы рэжам праўду-матку–
Чаму вішчыць мана?

* * *
Лаўровым шануюць вянком
Паэтаў і ўвогуле творцаў.
А лаўры, між іншым, у горцаў,
Як смецце растуць – хмызняком.

* * *
Пра здольнасць сына мне паведаў
Пісьменнік знаны: “Бачыць Бог –
Памёр бы, каб напэўна ведаў,
Што ён напіша ...некралог!”

* * *
Ёсць на сцэне дубальтоўка –
Дачакаемся дуплета.
Для пародый загатоўка –
Кніжка моднага паэта.

* * *
Фальшывіць медзь у большасці рэгістраў
Вось тут і разумееш – ён, дальбог,
Аддаў жыццё, каб подпісы міністраў
Ягоны аздаблялі некралог.

* * *

Я Пушкіна не скіну з п´едэстала,
Ён класік, але, што ні гавары,
Як пала Троя, трэба помніць стала,
Калі нам пруць данайскія дары.

* * *

Чужынскіх слоў не пераймай
І мову ў чысціні трымай.
Навошта “маемся” мы з маем,
Калі тутэйшы травень маем?

* * *

Ён склочнік у жыцці клінічны
І не дае нікому спуску.
І хоць да роднай мовы звычны,
А кляўзы піша ён ...па-руску!

* * *

Дастаеўскі і Гогаль, і Пушкін...
Зноў абставіла ўсіх “тройка-птушка”.
Хто ж Расіі ствараў гандыкап?
Беларус! Украінец! Арап!

* * *

Пегас быў у Ясеніна пры сене,
Для Музы – у шампанскім ананас!..
А ў нас? Саўгас і зацемкі ў кішэні.
Як без канякі ўзбіцца на Парнас?

* * *

Праект я прапаную адмысловы:
Калі часы двухмоўныя насталі,
Мо створым Таварыства рускай мовы –
Абараняць яе ад вертыкалі.

* * *

Раман сучасніка гартаю.
Пастом вялікім ён здаецца.
І Караткевіча хапаю –
Раскошай слова разгавецца!

* * *

Вокладка – пліта на цвінтары,
Вершы ўсё пра ныркі ды вантробы...
Думаю, што кніжку дактары
Ўклеюць у гісторыю хваробы!

* * *

Пасадай рэферэнта даражыў,
Баяўся, што сурочаць, жонка кіне,
Дзьмуў на ваду, на каве варажыў,
А выпрастаўся толькі ў дамавіне.

* * *

Гумору творцу не стае,
І вось у чым тут сутнасць:
Спачыць на лаўрах не дае
Іх поўная адсутнасць!

* * *

Соцрэалізм – цікавы быў працэс,
Выразна сведчаць кніжныя выданні:
Адным рабілі залаты абрэз,
Другім – лязом цэнзурным – абразанне.

* * *

Не выперці паэта з камсамола –
Прасякнуты даносам кожны верш:
Наўкола здрада, змова і крамола…
Ды, дзякуй Богу, распусцілі СМЕРШ!

* * *

Што рабіць, калі, на жаль, нязменныя
Звычкі ў беларусаў і характары:
Хціўцы – на пасадах, непісьменныя –
Ціхай сапай ціснуцца ў рэдактары.

* * *

Оды ўладзе і ў рыфму агіткі.
Веры творцу няма ні на грош.
Нават верш пра каханую гідкі –
Выпаўзае, як кніжная вош.

* * *

І вокладка, і добрая прадмова,
І ў колеры малюнкі, і набор…
І разышлася б кніжка паспяхова,
Каб да такой аздобы – лепшы твор!

* * *

Усё жыццё яны служылі Слову:
Адзін нам песні дзіўныя складаў,
Другі ўсё енчыў жаласна пра мову…
Век кожнаму належнае аддаў.

* * *

Уражаны я творчым светам
І болей не магу маўчаць:
Як трэба грэбаваць паэтам,
Каб на пасаду вылучаць!

* * *

Намуляў на руцэ мазоль,
А ўсё ж раман, нібы аблога,
Бо тое, што прымаў за столь,
Суседу зверху – як падлога!

* * *

Прамову творцы сход не надта слухаў –
Сачыў, каб не кульнуўся ён кулём.
І дзіва што: звычайна быў пад мухай,
А гэтым разам – яўна пад чмялём!

* * *

Спыніўся творчы заняпад.
З пісьменствам пойдзе ўсё на лад.
Таму што ўлада аднавіла
Вытворчасць таннага “чарніла”.

* * *

Рэдактар мудра аўтараў вітаў –
Не адмаўляў ніколі і нікому.
Адно на творах “выправіць” пісаў...
Ці рукапіс, ці аўтара дадому.

* * *

Учора бачыў я нараду...
Нязменна ўсё з сівых вякоў:
Каня баяцца трэба ззаду,
А дурня – з чатырох бакоў!

* * *

Я земляку, прабач, звыроду,
Ніколі не падам руку.
Ён нават вершык на Свабоду
Шпурнуў, як дробязь жабраку!

* * *

Чытанка тая не па мне –
Сучаснікаў шкадую ў кніжцы:
Як ні гартаў – усе ў гаўне,
А творца ў беленькай манішцы!

* * *

Браточкі-спадары-панове,
А можа, хопіць нам рыдаць,
Што сёння цяжка размаўляць?
Цяжэй – маўчаць на роднай мове!

* * *

Мяркую, што невыпадкова
Мне нешта хлусіць не дае.
Сваё сумленне мае Слова,
Таму, напэўна, мы – свае.

* * *

Рэдактар, можа, ты і лепшы,
Але прашу, не патушы
Пісьменнасцю ў нязграбным вершы
Цяпельца аўтарскай душы!

* * *

Вам, паважаны паэце,
Жыць я параю прасцей:
Кідайце словы на вецер –
Вершы чытайце часцей.

* * *

Не трэба ў некралогавым ныцці
Нам енчыць пра заўчасныя сыходы.
Паэт – ці памірае пры жыцці,
Ці застаецца з намі назаўсёды.

* * *

“Спакой. Туман. Тужлівы крык савы”.
Не верш, а Караткевічава проза!..
На ўласныя радкі зірнеш цвяроза
І болей не губляеш галавы...

* * *

Нашто, паэты, вам сварыцца?
Лепш паспрачацца з новым ...ізмам.
Сапраўдны творца не баіцца
“Запэцкаць рукі” публіцызмам!

* * *

Пісаць у стол ці пад сукно?
Я чуў пра гэты сумны вопыт.
Старэюць вершы, як віно:
Ператрымаў – чысцюткі воцат!

* * *

Улады паэт паважае,
Бо кожны пра іх анекдот
Пісьменству не перашкаджае,
А нават і наадварот!

* * *

Мух я ўлетку з цяжкасцю адольваю,
Бо яны такія мітуслівыя.
Не забіць усіх “Народнай воляю” –
Падпішу на лета “Нашу ніву” я!

* * *

З цікавасцю чакалі мы даклад
Літаратурнай справы мастадонта,
Але яго сучасны кругагляд
Бы ў не шырэй экрана “Гарызонта”.

* * *

Адзін начальнік дзеячаў культуры
Ўшчуваў, што ў нас няма літаратуры.
Шкадую – не даўмеліся спытаць,
Ці ўмее ён увогуле чытаць?

* * *

Мовазнаўцу, што надта ласы
Беларусь, як баласт, сапхнуць,–
Мо Ластоўскім па ляпе ляснуць,
Ці ў Насовіча носам ткнуць!?

* * *

Хоць мовай грэбуе – з пагардай
Русіфікуе ўсё дашчэнту,–
Не дапаможа нават Гарвард
Пазбыцца наскага акцэнту!

* * *

Нялёгка сёння творцам жыць –
Не тое што раней з працэнтаў.
І хоць Саюз амаль ляжыць,
Стаіць пакуль яшчэ Пэн... цэнтар!

* * *

Не шукаў чужыя берагі я
Тут і так хоць каравул крычы,
Бо даўно хварэю настальгіяй,
На сваёй радзіме жывучы...

* * *

Я хачу не надта шмат:
Каб у нашай хаце
Захаваўся рускі мат
Толькі ў супрамаце.

* * *

Почырку адметнаму мы шкодзім,
Калі пішам прапісі прыстойныя.
Рознымі на гэты свет прыходзім,
Каб рабіць памылкі самастойныя!

* * *

Не выдумляй сабе нічога,
Са Словам, кажаш, не сваволь?
Тады даведацца дазволь,
А як знайшлося Слова ў Бога?

* * *

Таямніцаю застаўся
Радавод пяшчотных слоў,
Хоць да Тулы прытуляўся,
Прысланяўся да сланоў...

* * *

Класічны з даўніны трохкутнік –
Улада, грошы і мастак:
Тварыць уладзе – ён адступнік,
Ва ўладзе творчасці – жабрак!

* * *

Хто растлумачыць гэты цуд, панове,
Чаму, калі пазбавімся пасад
Ці атрымаем выспятка пад зад,
Мы можам размаўляць на роднай мове?

* * *

Успрымаў як перформанс ці жарт
Я спачатку дзівосную з’яву.
Гэта ўжо літаральна поп-арт,
Калі поп асвячае выставу.

* * *

Спрачаўся з навамоднымі эстэтамі
І толькі потым да мяне дайшло,
Што поўня, так апетая паэтамі,
Чужое адлюстроўвае святло.

* * *

Хоць сэрца вершам стукаецца ў рэбры,
Ды розум зноў спрачаецца з душой:
Як тут амаль нікому непатрэбны,
Дык пагатоў без сэнсу за мяжой.

* * *

Каб наша мова цалкам не сканала,
Заместа нас ужо шчыруюць сёння –
“Самсунг”, “Галіна Бланка”, “Панасонік”
І ўласнікі Французскага канала.

* * *

Калі ізноў гумору не стае,
Крутні мае радкі нагамі ўгору –
І наша мова дапаможа гору:
“і” – клічнікамі ў словах паўстае!

* * *

Магчыма, гэтак у скароце
Пазначу ўласны творчы шлях:
З гадамі менш зубоў у роце,
Ды больш зубастасці ў радках!

* * *

Зніжка ў цэнах кірмашу.
Не бяруць пад абарону
Кніжку – белую варону.
Зноў уцэньваюць душу!

* * *

Ганарары – не купіш харчоў,
Не шыкоўных, а нават заменнікаў.
Тэрмінова Саюзу пісьменнікаў
Неабходны Саюз чытачоў!

* * *

Збірае кніжка вершы, як куфэрак
Спароміў продкам скарбы набыцця,
Ды ўсе яны – паперкі ад цукерак,
Узгадка пра сапраўдны смак жыцця.

* * *

Кульнуўся свет нагамі дагары,
У страшным сне такое не сасніцца:
Між жабракоў – паэт на цвінтары...
Са спонсарамі трэба разлічыцца!

* * *

Паэтка верш чытала. Як трымцела
Струна яе аголенай душы!..
Апроч сваіх, амаль што ні душы.
У нас аншлаг, калі аголіш цела!

* * *

Паэтаў не звабіць прынадамі,
Бо выбраны лёс песнярамі:
Смяюцца яны над уладамі,
Спрачаюцца – толькі з багамі!

* * *

Жыў чалавек – не чуў ні слова,
Памёр – узняўся хваласпеў.
Паўслова б нам – своечасова,
І паміраць бы расхацеў!

* * *

Няхай палова йдзе ў палову –
Зярнятка нараджае колас...
Паэт, пакінем енк пра мову,
Лепш пачытаем вершы ўголас!

* * *

Магчыма той, хто зладзіў гэты свет,
Заводзіць кепска ходзікі ў паэце?..
А ты маўчы пра тое, што паэт, –
І пажывеш яшчэ на гэтым свеце!

* * *

Вясновы пошчак, як паштоўка,
Ляціць у неба да багоў!
А ці спяваў бы так салоўка,
Калі б не слухалі яго?

* * *

Белае з чорным затойвае ўсё:
Колеры, мары, адценні, намеры…
Нават найлепшыя хоку Басё –
Чорная туш на бялюткай паперы!

* * *

Сапраўдныя творцы – ерэтыкі,
І гэта норма, а не адхіленне.
Ім не хапае часу на маленне,
Бо ўласны свет ствараюць мастакі.

* * *

Год прайшоў, але не сумаваць
Знойдзецца пад Новы год прычына –
Ёсць нагода зноў павіншаваць
Бога-бацьку з нараджэннем сына.

* * *

Гартае Богу, пэўна, угары
Календары паспешлівы саветнік.
Кладуцца, як вянкі на цвінтары,
Калядныя яліначкі на сметнік.

* * *

Галінкі мадзелі ад вербнай нядзелі.
Хацеў іх – на сметнік ад жонкі цішком,
Ды ўбачыў: прыкметаю вернай надзеі
Адна прарастае – зялёным лістком.

* * *

Празрыстым рэхам – рыфмай бездакорнай
Параніў сэрца ў ранішнім бары…
Як не згубіць радкі, што край азёрны
Са шчодрасцю крынічнай падарыў?..

* * *

Быў наскі край крыніцамі багат.
Але ці не таму змялелі рэкі,
Што з´ехалі паэты з родных хат
І ў гарадах змарнелі, недарэкі!?

* * *

Расхлябіцу нябесны вадзянік
Трасе драбнютка са сваёй сявенькі.
Стуліўся ля слупка палын сівенькі.
Сышоў з крыжа Хрыстос і недзе знік…

* * *

Чыім стараннем сёння ўранні,
Цяпер ужо і на гудзонах
Гарацъ за шыбамі герані –
Шматкі мястэчак у вазонах?

* * *

Самотная ляціць у небе гусь,
Насустрач ёй – гуськом у вырай гусі:
–Куды ляціш сама? – У Беларусь!
–Адкуль жа ты такая? – З Беларусі…

* * *

Жыццёвы час жывіцаю паўзе,
Ды я глядзець у прышласць не баюся –
Застацца спадзяюся ў Беларусі
Мурашкаю ў бурштынавай слязе.

* * *

Рама акенца – быццам багет.
Выбіта шыба ў кінутай хаце.
Лёс Беларусі – цэлы Сусвет! –
У бездакорным чорным квадраце…